*І помні, што, калі ты нечага жадаеш, увесь Сусвет будзе садзейнічаць таму, каб жаданне тваё здзейснілася.*

**Паула Каэлья. "Алхімік"**

# Сны пра Саяны

***Гэтыя нататкі былі напісаны зусім не дзеля таго, каб расказаць пра незвычайную, велічную прыгажосць саянскіх гор і рэк і возера Байкал. І не затым, каб перадаць моцныя перажыванні ад убачанага.***

***Проста - прыйшла восень, а з ёю сум, і нават у самыя неспакойныя сэрцы прасочваецца нерухомасць. І так захацелася ўспамінамі пра лета ажывіць гэтыя восеньскія дні, каб хоць на кароценькі час стала шэрае наваколле ізумрудна-зялёным, а свінцовае неба - глыбокім блакітам.***

***А яшчэ мне вельмі хацелася сказаць вам, што трэба толькі выпусціць мару на волю, і яна сама павядзе ў шлях. І не стануць ёй перашкодай ні адлегласць, ні межы, знойдуцца грошы, з'явяцца людзі, каб ісці разам. Галоўнае - людзі!..***



### Як ля парога, такая й дарога

Адпачынак – заслужаны і дужа чаканы – паўстаў перада мной неяк знянацку, так што за дзесяць дзён да яго, калі іншыя з білетамі ў кішэні ўжо сядзяць на чамаданах, я яшчэ не ведала, куды ехаць. Вядома ж, хацелася актыўнага адпачынку, але пакуль я схамянулася, усе знаёмцы даўно ўжо раз'ехаліся-разышліся па розных турысцкіх сцежках і толькі прыкрыя доўгія гудкі ў тэлефоннай трубцы перадавалі мне, што недзе далёка людзям вельмі хораша.

Я была "асуджана" на Крым, які люблю ўсім сэрцам. Але люблю, як родную вёску – з яе паваленымі парканамі, соннымі каровамі і паддатымі суседзямі. Як у вёсцы, у Крыме добра з дзецьмі – карміць іх там свежай садавінай, купаць, песціць. Мне ж хацелася вострых уражанняў...

Калі раптам патэлефанавалі і прапанавалі паехаць на Байкал – гэта гучала фантастычна. З нейкага часу Байкал у нашым разуменні стаў такім далёкім і недасягальным, як Ціцікака. Ніл і Манблан здаваліся больш даступнымі. Я спытала, колькі часу магу падумаць. Адказалі, што ў аўтарак – цягнік.

Георгій знайшоў мяне самым банальным чынам – праз гарадскі турклуб на Першамайскай. Я ўжо і забылася пра тое, што на пачатку лета пакінула там заяўку: "Пайду ў пешы, горны, водны паход (Каўказ, Азія, Сібір). Паходны вопыт маю". І трэба ж – спрацавала! Мы пачалі рыхтавацца ў дарогу.

Меркавалася, што едзем на месяц: тыдзень правядзем на Байкале, а потым пройдзем па рацэ (планавалі Саянскую Аку, але прайшлі Іркут). Дзве байдаркі – чацвёра чалавек. Усё ўва мне трымцела ад раптоўнай удачы – я ніколі не была ў Сібіры, я нават не марыла пра Байкал, я і не думала, што гэта – так проста.

Але за некалькі дзён да ад'езду наша падарожжа ледзь не пацярпела крах. Мы сабраліся, каб абмеркаваць дэталёва ўсе нашы шляхі, рыштунак, прадуктовую раскладку, калі Марына раптам заявіла, што яна не едзе. Цяжка сказаць, што кіравала ёю. Высокі голас і звонкі паўднёва-беларускі дыялект, як асколкі мары, сыпаліся па пакоі. Рассыпалася наша група, наша падарожжа, наша лета, якому было не суджана сягнуць за Урал. Мы знямелі...

Першым узяў сябе ў рукі Георгій. Відавочна, сказаў ён, што знайсці чацвёртага чалавека за некалькі дзён да ад'езду немагчыма, і адзіны шанец не страціць сезон – зараз жа абмяняць білеты на Мурманск і праз дзень паехаць з апошняй мінскай групай у Карэлію. Але мы з Сашам "выгандлявалі" ў Георгія адну ноч на пошукі чалавека...

Шэршэ ля фам, – гавораць французы. Адна жанчына разбурыла наша падарожжа, другая павінна была яго выратаваць. І пасля таго як мы безвынікова патэлефанавалі ўсім сваім знаёмым, наш шлях быў на вакзал. Рэч у тым, што літаральна ў гэты дзень у Мінск прыязджала мая добрая знаёмая з Дрыбіна, мы разам выбралі ёй рукзак і спальнік – яна збіралася праз дзень паехаць на Каўказ. Цяпер нашай мэтай было адшукаць Людмілу на вакзале, адкуль начным цягніком яна павінна была адправіцца да Оршы.

Мілая Людміла! Пакуль ты гуляла па вячэрнім Мінску, мы шукалі цябе на вакзале, слалі табе паведамленні па вакзальным радыё, думалі: што сказаць, каб ты пагадзілася на нашу вар'яцкую прапанову.

Людміла з'явілася за чвэрць гадзіны да адпраўлення цягніка – лёгкая і натуральная, быццам гэта не яна – адзіная наша надзея. Я гаварыла доўга і хутка, казала, што налета паеду з ёй на Каўказ і што калі ёсць выбар, трэба ехаць куды далей... А калі скончыліся словы, сілы, дыханне і я са страхам змоўкла, Людміла з уласцівым толькі ёй спакоем ціха сказала: "Добра..."

І мы пабеглі за білетам. Скінуліся і... з дапамогай вельмі ўплывовага чалавека, якога зноў жа выпадкова сустрэлі на вакзале, купілі Людміле білет. Трэба сказаць, што значна раней мы набывалі такія дэфіцытныя летам білеты з вялікімі цяжкасцямі. А з Людмілай у выніку такога ўдачнага збегу абставін я трапіла нават у адно купэ.

Калі ў гадзіну ночы мы патэлефанавалі Георгію і сказалі, што едзем усё ж на Байкал, той не падзяліў нашай радасці. Вельмі ж усё ў гэтай гісторыі падалося яму непраўдападобным. Толькі ў іркуцкім цягніку, калі ў Оршы ў яго ўвайшла Людміла, Георгій, нарэшце, уздыхнуў з палёгкай: непрыдуманая!

Так пачалася наша вандроўка. Нас чакалі дзівосныя краявіды, прыгоды і дружба.

Георгій Маскалёў – інжынер-канструктар, Саша Лаханько – праграміст, Людміла Хахлова – настаўніца. Уласна кажучы, гэтыя нататкі ў многім – дзеля яе.

### Восем сутак з расплюшчаным носам

Цягнік "Мінск – Іркуцк" пусцілі гэтым летам упершыню, але так далёка ездзяць, пэўна, нямногія. Бо сама праваднiца пыталася ў нас, колькі каштуе білет да Іркуцка.

Ужо праз паўсутак дарогі мы ўсе апынуліся не толькі ў адным вагоне, а і ў адным купэ. Людзі мяняліся ахвотна, яны не дужа любяць ездзіць з турыстамі (рукзакі і байдаркі ўмомант ператвараюць маленькае купэ ў вялікі склад). Але найперш тут дапамаглі выдатныя арганізатарскія здольнасці, талент і абаянне Георгія. Увесь час мы будзем адзначаць гэта і цаніць. Ён быў кіраўніком нашай маленькай групкі, але кіраваў настолькі незаўважна, што мы і ў Мінск вярталіся перакананымі, быццам усё ў нас само сабой атрымлівалася – зладжана і талкова.

Да дарогі даўжынёй у чацвёра сутак усе падрыхтаваліся грунтоўна. Людміла ўзяла цэлы пакунак каляровых алоўкаў і некалькі дзесяткаў японскіх крыжаванак, якія думала размаляваць. Саша "скачаў" з Інтэрнэта новую аповесць Маркеса і захапіў цэлую гару прафесійнай літаратуры. Георгій заявіў, што мае намер адаспацца за ўсе апошнія бяссонныя ночы (і пэўны час старанна выконваў задуманае).

У Мінску гэтыя чацвёра сутак падаваліся вечнасцю, у дарозе ж яны праляталі весела і цікава. Колькі тэм для размоў! І колькі размоў без тэм! Мы паспыталі ёгурты і марожанае уздоўж усёй транссібірскай магістралі. У Краснаярску бачылі ў продажы беларускія цукеркі "Міхаэла", а ў Іркуцку – парфуму маркі "Модум". Наогул, маштабы глабалізацыі ўражваюць: "Снікерсы", "Кола" і піва "Балтыка" прадаюцца абсалютна паўсюдна.

Прырода Паўднёва-Заходняй Сібіры адрозніваецца ад беларускай зусім нязначна, а Паўднёвы Урал – нізкі-нізкі. Каб не сачылі, то і не заўважылі б гор і мяжы між Еўропай і Азіяй. Часта бывала кінеш позірк за акно – і падаецца, быццам едзем недзе пад Асіповічамі, а ніяк не за тысячы кіламетраў ад іх.

Але рэкі сібірскія захапляюць: Об, Іртыш, Енісей... Нават цяжка ўявіць, што на перасячэнні з транссібам яны яшчэ толькі ў сярэдняй частцы свайго цячэння і да Паўночна-Ледавітага акіяна іх моц шматразова павялічыцца.

Нават ноччу, бывала, хтосьці з нас без сну глядзеў у вакно і раптам захоплена шаптаў: "Глядзіце!.." І ўсе ўмомант прачыналіся і прыціскаліся насамі да шкла. Мы нічога не хацелі праспаць. І буйнейшыя гарады на сваім шляху – Смаленск, Уладзімір, Ніжні Ноўгарад, Перм, Екацярынбург, Цюмень, Омск, Новасібірск, Краснаярск – мы бачылі, няхай сабе толькі і праз вакно цягніка.

Назад ехалі праз Маскву. Па-першае, гэта амаль ці не ўдвая танней (расійская чыгунка на доўгія, звыш шасці тысяч кіламетраў, адлегласці робіць вялізныя скідкі). А падругое, мінскі цягнік ходзіць толькі раз на тыдзень, і мы яго не чакалі.

Калі па дарозе на Усход мы бавілі час за філасофскімі развагамі і жыццёвымі гісторыямі, дык зваротны шлях быў напоўнены агульнымі ўражаннямі і ўспамінамі. Калі месяц таму мы ехалі ўсё ж "за туманам", то цяпер везлі дадому радасць перажыванняў і здабытую ў выпрабаваннях дружбу. Тады мы хінуліся да шкла, каб пазнаць таямніцы Сібіры, вяртаючыся, мы хацелі яе запомніць.

### Сцюдзёнае, смачнае мора

Калі на беразе Ангары мы збіралі байдаркі, гаспадыня лецішча, што было недалёка, прынесла нам чайнік гарачай гарбаты. А ўбачыўшы нашы лёгкія байдаркі, прашаптала: "Дзеткі, вы хоць хрышчоныя?" Гэта была наша першая сустрэча з незвычайнай сібірскай добразычлівасцю і гасціннасцю.

Байкал – вялікі (у самым патэтычным сэнсе гэтага слова). Мы прайшлі па ім на байдарках усяго 80 кіламетраў, але колькі бачылі!

Нават скупая на эпітэты энцыклапедыя некалькі разоў ужывае слова "самае" ў дачыненні да возера Байкал. Самае глыбокае (1620 м) і вялікае па аб'ёму прэснай вады ў свеце! Пятая частка сусветных запасаў прэснай вады (без ледавікоў)! Празрыстасць – да 40 метраў! Даўжыня – 636, найбольшая шырыня – 79,4 кіламетра. На Байкале 27 астравоў. У яго ўпадае 336 рэк, выцякае адна толькі – Ангара. 2600 разнавіднасцей флоры і фауны, у тым ліку 3/4 – эндэмікі.

Пейзажы Байкала нагадваюць марскія – такія ж яркія світанкі, месяцовыя дарожкі і вельмі прыгожыя каменьчыкі на берагах. Але паколькі Байкал акружаюць горы да 2500 м вышынёй і з надвор'ем нам таксама шанцавала, то супрацьлеглы бераг быў увесь час бачны. Далёка-далёка, як марскі міраж, у матавай дымцы на нас глядзелі блакітныя хрыбты.

"Наш" бераг быў не такі высокі, і мы не адмаўлялі сабе ў задавальненні палазіць па скалістых схілах, з якіх адкрываюцца неверагодныя краявіды. Кветак на крутых байкальскіх берагах – процьма (гэтак як і пахаў). Надзіва, бачылі там шмат раслін, якія ў нас вырошчваюць у садах, полюць, паліваюць, а там яны – буяюць самі па сабе! Людміла з аднаго кусціка нават сабрала насенне, каб налета пасеяць у сваім садзе.

Вада ў Байкале сцюдзёная – да +13 (у той час як паветра – +30). Вядома ж, мы купаліся. Мае сябры рабілі гэта нават з задавальненнем. Я ж з заміраннем пагружалася ў гэты холад, угаворваючы сябе толькі тым, што буду потым гераічна расказваць пра купанне ў Байкале сваім блізкім.

Але ж вада – смачная! У байдарцы я заўсёды трымала пад рукой кружачку: зачарпнеш, калі піць захочацца, і смакуеш, як халодны сок, пад пякучым сонцам.

Калі яшчэ казаць пра тамтэйшыя смакоцці, дык гэта байкальскі омуль. Мы яго салілі, смажылі, варылі юшку. Самі не лавілі – куплялі. А аднойчы на досвітку рыбак прывёз нам незвычайную жывародную рыбу – галамянку. Ён папярэдзіў, што яна амаль уся складаецца з тлушчу, але мы былі вельмі здзіўлены, калі ў юшцы яе папросту не знайшлі.



Пасля тыднёвага падарожжа, калі мы трапілі ў пасёлак Култук, каб шукаць машыну і ехаць на раку, усе даброты цывілізацыі падаліся раптам такімі ненатуральнымі. І яшчэ адно назіранне многіх гадоў: вельмі хутка, амаль адразу, прывыкаеш да прыроды, і даволі хваравіта адбываецца адваротная акліматызацыя, калі вяртаешся ў горад. Асабліва здзіўляюць формы цывілізацыі – усё такое квадратнае, вуглаватае...

Мы пакідалі Байкал з жалем. Тут мы адпачывалі, тут было прыгожа і спакойна. Пад ціхія ўсплёскі вёсел можа было аддацца сваім думкам, можна было зацягнуць ціхую песню ці перакінуцца словам з сябрам. Цяпер жа мы збіраліся на раку, дзе – парогі і шыверы, шум перакатаў і тайга. На Байкале было аднастайна добра, але мы пакідалі гэты рай – дзеля прыгод і новых уражанняў.

### У пенным кіпені Іркута

Мы хацелі паехаць на Саянскую Аку. Але сёлета па тых мясцінах прайшла страшная паводка, і патрэбная нам дарога была літаральна змыта, разам з мастамі. Пазней высветлілася, што і не трэба было туды любымі сіламі прарывацца. Бо тых упартых, што ўсё ж такі знайшлі шляхі да Саянскай Акі, чакалі вялікія беды – пасля паводкі рака стала для байдарак недаступнай.

Мы паехалі на Іркут.

Як пажартаваў Георгій на пачатку нашага рачнога падарожжа, Іркут нагадвае Нёман, над якім павесілі горы. Але чым далей мы рухаліся, тым больш крутымі станавіліся яго берагі і больш пеннымі – воды.



Значная частка шляху ішла па зямлі Бурацiі. Бураты – будысты, і некалькі разоў нам даводзілася спыняцца каля дацанаў – святых месцаў, дзе прынята пакласці манетку і пакінуць сцяжок. Бураты – вельмі сімпатычныя людзі. Калі яны бачылі на рацэ нашы байдаркі, дык падыходзілі блізка да вады і дабрадушна ўсміхаліся.

Аднойчы мы ўжо спыніліся на стаянку, калі заўважылі на рацэ плыт, над якім трымцеў, як быццам бы, наш беларускі сцяг. Мы махалі яму, крычалі, але рака шумела, і плыт, выпусціўшы нам ракету, прайшоў далей. Мы так і не даведаліся, ці былі то беларусы.

Я вельмі баялася аверкіля, думала, калі байдарка абернецца, не выплыву ніколі. Але як потым, у пенных парогах, байдарка дзівіла мяне сваёй вынослівасцю, гэтак жа здзівіла, калі кульнулася на роўнай вадзе, ледзь зачапіўшыся за куст. Па сведчаннях відавочцаў, з байдаркі, якая была ўверх дном, я выбралася літаральна за паўтары секунды. Трохі шкада было ўтопленую кружку, але аверкіль надаў мне мужнасці перад парогамі – я набыла ўпэўненасць, што абавязкова выплыву.

Іркут таксама напаткала паводка, і гэта значна змяніла яго карціну, з-за чаго многія апісанні ракі аказаліся няправільнымі. Калісьці небяспечныя камяні цяпер зніклі пад вадой, а тыя, што можна было лёгка абысці, сталі небяспечнымі. Не толькі парогі і шыверы, але і ўчасткі паміж імі, вымагалі пільнасці і асцярожнасці.

Не абышлося і без кур'ёзаў: у Вялікім Парозе Саша згубіў вясло, дакладней, адвалілася адна лопасць. І хоць ён умудрыўся тут жа падхапіць яе, якасна грэбсці, вядома ж, ужо не мог. На шчасце, гэта здарылася ўжо ў канцы парога, інакш страшна нават думаць пра наступствы.

Хоць гэта быў мой не першы водны паход, але я больш прывыкла давяраць сваім нагам, рукам у пешых ці горных паходах. Тут жа мне было шчыра страшна. Аглядаючы перад праходжаннем парогі, у якіх з шумам кіпіць вада, я адчувала жах. З ватнымі нагамі забіралася ў байдарку, дрыжачымі рукамі брала вясло, глядзела на неба і... мне хацелася плакаць. І гэты стан паўтараўся перад кожным парогам. Але – да першага вала. Як толькі байдарка прабівала носам першы вал і халодная вада накрывала лодку – увесь страх быццам змывала. І ты ўжо ведаеш, што і як трэба рабіць, куды рухацца, чым кіравацца. А апошнія валы – ужо нават у радасць.

Зрэшты, гэта толькі мае перажыванні. Сябры выглядалі бясстрашнымі і спакойнымі. Самы просты, Мурамскі, парог Людміла рызыкнула нават праплыць у выратавальнай камізэльцы. А пад канец паходу мы ўсе забаўляліся: калі з аднаго боку рака была "чыстай", а з другога – хвалявалася, мы імкнуліся туды. І звалася гэта – "пакатацца".

Калі Іркут выйшаў з цясніны, дык ператварыўся ў шырокую, павольную раку. У Іркуцку, пад чыгуначным мостам, скончылася наша смелае падарожжа. Мы сабралі свае верныя байдаркі, склалі рукзакі – і накіраваліся на вакзал.

Мы ехалі дадому, дзе ўсе нашы перажыванні, усе радасці і захапленні трэба выказваць словамі. Магчыма, гэтыя нататкі і не пісаліся так доўга, што не ўсё магчыма сказаць...

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: Іркут з вышыні птушынага палёту; "просценькая" шывера; стромкія берагі Байкала.

З чаго пачынаецца Радзіма

# Вучыцца ў Маўра любові да прыроды

***Шкада, што нашы настаўнікі часам ленуюцца хадзіць з дзецьмі ў паходы па зямлі Бацькаўшчыны. Зарад бадзёрасці і аптымізму, які атрымліваюць пры гэтым дзеці, нельга параўнаць ні з чым.***

Вельмі важна і для саміх педагогаў не страціць з гадамі здольнасці здзіўляцца, патрэбы працаваць з душой, захаваць у сабе радаснае чаканне сустрэчы з незнаёмым, нязведаным. Свет, які акружае нас - разнастайны, дзівосны. Таму давайце ў новым навучальным годзе, першым годзе новага тысячагоддзя, адкладзем як-небудзь свае "неадкладныя" справы, возьмем з сабой сваіх дзяцей і адправімся на экскурсію на прыроду, пазнаёмімся з архітэктурнымі славутасцямі радзімы. Нельга выкладаць біялогію, геаграфію, гісторыю і іншыя прадметы толькі ў кабінеце. Трэба вучыцца пісаць, абдумваць сачыненні пра восень у родным лесе, парку.

А то мы проста ўжо развучыліся заўважаць, што знікае прырода, што ад яе, сапраўды, застаюцца толькі адны помнікі, на якія мы некалі хоць членскія ўзносы плацілі, а зараз і гэтага не робім.

Любові да прыроды нам усім, і дарослым, і дзецям, трэба вучыцца ў вялікага Янкі Маўра. З маленства маёй любімай кнігай стала аповесць "Палескія рабінзоны". А зразумець хараство гэтага твора мне некалі дапамагла мая любімая настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школы № 6 Кобрына Тамара Сямёнаўна Далбусіна.


**УГОЛЬ**

каменный и бурый

ОПТОВЫЕ ПОСТАВКИ

Тел. (017)211-25-10;
211-25-11.


Упэўнены: пасля новага, нават самага кароценькага, падарожжа перад вамі быццам нанава адкрыецца гісторыя народа Беларусі, роднага горада ці вёскі. Шматлікія "чаму" дзяцей зноў ажывуць, свет стане цікавіць іх яшчэ больш, з'явіцца жаданне даведацца як мага болей.

Экскурсіі падзяляюцца на цыклы: гістарычныя, ваенна-гістарычныя, архітэктурна-горадабудаўнічыя, літаратурныя, мастацтвазнаўчыя, музейныя, прыродазнаўчыя, вытворчыя і іншыя. Цыклы дапамагаюць дзецям больш паслядоўна засвойваць веды, павялічваюць патрэбу ў больш глыбокім вывучэнні гісторыі, мастацтва, літаратуры.

Пры добрых экскурсіях дзеці з году ў год, з першага да адзінаццатага класа, здолелі б паглыбляць свае веды пра сваю мясцовасць, раён, родны горад, яго гісторыю, прыроду, архітэктуру, мастацтва.

Высечаныя лясы, брудныя рэкі, атручаныя азёры - усё гэта рэаліі пачатку XXI стагоддзя. Наш утылітарны падыход да "зялёнага сябра" паставіў грамадства перад пагрозай усеагульнай экалагічнай катастрофы. Таму пытанні фарміравання экалагічнай дасведчанасці, экалагічнага сумлення, выхавання, дзейснай, актыўнай любові да прыроды ў дзяцей - цяпер адны з самых вострых і актуальных.

Менавіта такія пытанні павінны ставіць перад сабой метадысты і экскурсаводы рэспублікі, калі распрацоўваюць новыя маршруты і тэматыку прыродазнаўчых экскурсій.

Адзначу, што менавіта пешы турызм - найбольш даступны і папулярны від турызму. Ён не патрабуе ніякага асаблівага рыштунку. Падарожнічаць пехатою можна практычна ва ўсе поры года, за выключэннем хіба вельмі заснежанага зімовага часу.

Што трэба ведаць турысту, які ступіў на пешаходную сцяжынку? Па-першае, разлічваць свае сілы і сілы сваіх спадарожнікаў. Ісці трэба ў роўным, спакойным тэмпе, арыентуючыся на самага слабага ўдзельніка паходу. У калоне лепш рухацца па аднаму чалавеку, але, калі дазваляе шырыня сцежкі, можна ісці па двое-трое.

Выбар напрамку руху ў паходзе вызначаецца рэльефам мясцовасці, яе расліннасцю і наяўнасцю сцежак. Густыя лясы з падлескамі, складаны рэльеф, зараснікі кустоўя лепш перасякаць па сцежках.

Калі маршрут праходзіць па лесе, дзе няма сцежак, шлях трэба выбіраць уздоўж рэк. Пры руху ў лясных зарасніках, густым кустоўі неабходна вытрымліваць пэўны інтэрвал паміж удзельнікамі паходу, сачыць, каб галінкі не сцябалі тых, хто ідзе ззаду.

Перад выхадам на маршрут трэба навучыцца арыентавацца на мясцовасці з компасам, вывучыць карту раёна. І абавязкова ўмець карыстацца прыроднымі арыенцірамі: зоркамі, сонцам, дрэвамі, сістэмай прасек, ручаёў, іх размяшчэннем адносна старон свету. Гэта дапаможа педагогу і дзецям на маршруце, засцеражэ ад розных непрыемных нечаканасцей.

Шчаслівых вам вандровак, сябры, па родным краі!

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

Гэта цікава

# Цуды палёту

Птушкі жывуць усюды - ад палярных ільдоў і схілаў найвышэйшых гор да бурных мораў, непраходных джунгляў, бясплодных пустыняў і шматлюдных гарадоў. Адзінае месца, дзе не сустракаюцца птушкі, гэта цэнтральная частка Антарктыды.

* * *

Усяго на Зямлі 8580 відаў птушак, а іх гісторыя налічвае звыш 150 мільёнаў гадоў.

* * *

Страус - самая вялікая з сучасных птушак, у яе - магутныя голыя ногі, а вышыня дасягае двух з паловай метраў. На назе афрыканскага страуса - толькі два пальцы.

* * *

А новазеландскія ківі нагадваюць калматыя футбольныя мячыкі з доўгай дзюбай і "вусамі". Цікава, што ноздры ў іх -на канцы дзюбы, што дапамагае ім шукаць чарвякоў у час начнога харчавання.

* * *

Самая вялікая колькасць лебедзяў, што зімуюць на Беларусі, зарэгістравана на Палессі - на рэках Мухавец і Лясная.

* * *

Калібры, гэтых птушак з танюсенькімі, як іголкі, дзюбамі налічваецца каля 320 відаў. Яны кормяцца нектарам. Тоненькая дзюба аднаго з відаў дасягае дванаццаці сантыметраў у даўжыню.

* * *

Атрад вераб'іных - самы шматлікі атрад, які налічвае 5110 відаў. Сюды ўваходзіць і маленькая валавока, якая шмыгае, нібы шэранькае мышаня, пад каранямі паваленай яліны і пяе так звонка і мілагучна, быццам сярэбраны званочак (звоняць і вялікая прыгожая райская птушка, і птушка-ліра).

* * *

Афрыканская буйвалава птушка збірае насякомых са скуры вялікіх траваядных жывёл і гэтым аказвае ім добрую паслугу.

* * *

У палярных абласцях здольныя жыць толькі нямногія віды, але затое калоніі гэтых птушак (амаль заўсёды выключна марскія), якія харчуюцца рыбай, дасягаюць мільёна асобін. Гэта - птушыныя кірмашы, якія ўтвараюць чысцікі, кайры, паморнікі.

Заўважым, што самая вялікая птушыная калонія ў свеце - на ўзбярэжжы Перу. А незвычайная каштоўнасць гэтай калоніі як фабрыкі ўгнаенняў (гуана) была вядомая яшчэ тысячагоддзе назад.

* * *

Яшчэ ў 1620 годзе былі вядомы выключна вялікія калоніі галубоў. Аднак... іх ужывалі ў ежу, а калі птушак было занадта многа, скармлівалі свінням. У пачатку XIX стагоддзя ў Паўночнай Амерыцы яшчэ жыло каля пяці мільярдаў гэтых птушак. Але апошнім прадстаўніком гэтага віду была Марта, якая памерла ў Цынцынацкім заапарку ў 1914 годзе.

* * *

Вельмі блізка да канчатковага вынішчэння былі і амерыканскія журавы. Але для выратавання віду была арганізавана строгая ахова. Калі чарада журавоў, напрыклад, ляцела ад Канады, дзе яны гняздуюцца, на зімоўку ў паўднёвы Тэхас, іх суправаджаў спецыяльны самалёт.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**


**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС: 220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.

Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

ФАКС: 36-53-22.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала КЛЮЙКО.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.

Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Замова № 6998

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Падпісана да друку 26.11.2001 г. у 18.10

Наклад 30.000 паасобнікаў.